КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№1 (300)
2023 год



ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# ДЗЬВІНА І СТУДЗЕНЬСКІ ПАВАДАК

**Кажуць, што напярэдадні, 31-га сьнежня, людзі яшчэ пераходзілі праз Дзьвіну ў Бешанковічах. Раніцай 1-га студзеня яны яшчэ спалі, а па лёдзе соўгаліся толькі сабакі. Пераходзіць па лёдзе на другі бок было крайне небясьпечна. Бо лёд (і без таго тонкі) ужо адышоў ад берага на некалькі метраў.**



Дзьвіна пабыла ў лядовым палоне роўна месяц.

Здавалася б, пасьля таго як на ёй былі пабudаваныя дзьве ГЭС, павадкі на ёй мусілі стаць наогул рэдкасьцю. Але ж прырода вызначае свае законы. За тыдзень анамальнага цяпла (з канца года да 5-га студзеня) ўвесь багаты сёлетні сьнег растаў і сышоў у рэчкі.

І цяпер шырачэнная плынь прывычна нясе ўсю гіганцкую масу вады да Балтыйскага мора. Была інфармацыя, што ў Полацку на ГЭС скідваюць лішкі вады, так шмат яе там сабралася.

У нас ГЭС пакуль няма, таму скідваць ваду таксама патрэбы няма.

А вось перабрацца на другі бераг жаданьне ёсьць шмат у каго, але ж лодачная пераправа не працуе. Хаця на дрэве вісіць графік ейнай працы. Ёсьць тут і тэлефон лодачніка, якім я і скарыстаўся 5-га студзеня, каб даведацца навіны пераправы.

— Лёду па рацэ амаль што няма, ці будзеце сёньня працаваць?

— Не, працаваць не будзем. Ад нас жа гэта не залежыць. Начальства так вырашыла.

Зразумела, што турбавацца чымсьці на некалькі дзён нікому ахвоты няма. Ужо 6-га студзеня ў Бешанковічах прагназуюць 14 градусаў марозу. І на працягу трох дзён мароз будзе толькі мацнець.

Раніцай 7-га студзеня ў Бешанковічах было аж 20 градусаў марозу. Але Дзьвіну гэты мароз не ўзяў. Яна «сьпявала». Ейныя “сьпевы” рабілі ільдзіны, якія цёрліся аб берагі.

І толькі ноччу з 12-га на 13-га студзеня Дзьвіна ў Бешанковічах усё ж спыніла свой бег.

Цяпер па рацэ назіраюцца таросы аж да процілеглага берага. Хутка адшукаюцца смельчакі, якія рушаць на першаадкрыццё лядовай дарогі. Не факт, што гэта абыдзецца без няшчаснага выпадку, бо лёд дужа кволы.

Я б раіў такую сцяжыну першым праклaсьці МНС-аўцам і потым абслугоўваць яе, як абслугоўваюць любую пераправу. Але такога Бешанковічы ня бачылі ніколі…

**Г.Станкевіч**

*ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАНСТАНЦЫІ БУЙЛО*

## *ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ*

*Люблю наш край, старонку гэту,*
*Дзе я радзілася, расла.*
*Дзе ў першы раз пазнала шчасце,*
*Слязу нядолі праліла.*

*Люблю народ наш беларускі,*
*І хаты, у зелені садоў,*
*Залочаныя збожжам нівы,*
*Шум нашых гаяў і лясоў.*

*І песню родную люблю я,*
*Што ў поле жнеі запяюць.*
*Як гукі звонкія над нівай*
*Пераліваюцца, плывуць*

*Мне тут усе для сэрца міла,*
*Бо я люблю свой родны край*
*Дзе з першым шчасцем*
*я спазналась,*
*Дзе срэбным звонам кліча гай.*

**Канстанцыя Буйло**

*Партал твайго горада: http://beshankovichi.by*

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ВАСІЛЬ ЧАРАДНІК САСТУПІЎ СВАЮ ПАСАДУ АНДРЭЮ БЯНЬКО

**Напярэдадні Новага года старшыня аблвыканкама Аляксандр Субоцін прыняў кадравыя рашэнні, паведамляе telegram-канал «Віцебская вобласць. Афіцыйна». Сярод іншых было ўзгоднена прызначэнне Андрэя Бянько дырэктарам сельгаспрадпрыемства «Рудакова» Віцебскага раёна(ён быў тут намеснікам дырэктара).**

Васілю Чарадніку, які два гады кіраваў ПУСП «АграВітВін» Бешанковіцкага раёна, пяць з паловай гадоў узначальваў Сенненскі райвыканкам, крыху менш года быў дырэктарам Глубокскага малочна-кансервавага камбінату і амаль два гады кіраваў у "Рудакова", пэўна рыхтуюць новую пасаду.

За пяць гадоў працы намеснік дырэктара па вытворчасці УП «Рудакова» Віцебскага раёна Андрэй Бянько зарэкамендаваў сябе вопытным гаспадарнікам, які ўмее вырашаць самыя амбіцыйныя задачы.

У свае няпоўныя 30 гадоў Андрэй Аляксандравіч дабіўся ўсяго, да чаго імкнуўся. У яго падпарадкаванні больш за тысячу чалавек, якія працуюць у раслінаводчым, жывёлагадоўчым і механізаваным падраздзяленнях гаспадаркі, дзе адной толькі раллі налічваецца звыш 15 тыс. га, 13 тыс. галоў буйнай рагатай жывёлы. Маштабы ўражваюць.

Здавалася б, маладому спецыялісту можна і разгубіцца. Але не! Андрэй Бянько дасканала вывучыў структуру ўсіх падраздзяленняў. Папрацаваў загадчыкам майстэрні, галоўным інжынерам. Кіраўніцтва «Рудакова» ўбачыла ў маладым спецыялісты вялікі патэнцыял. Ён хутка арыентуецца ў сітуацыі, мае добрую тэарэтычную базу — скончыў Беларускую дзяржаўную сельгасакадэмію, лёгка знаходзіць агульную мову з падначаленымі, сярод якіх нямала людзей з вялікім досьведам. Словам, моцны арэшак.

— Андрэй Аляксандравіч — чалавек слова і справы. Ініцыятыўны, выдатны арганізатар, з ім лёгка вырашаць пытанні. А тое, што малады, — толькі плюс. Больш сіл і энергіі выдаткуе на агульную справу, — паважліва адклікаецца аб Андрэю Бянько дасведчаны начальнік участка «Вымна» Міхаіл Дуднік.

— Калі ў свае гады дасягнулі ўсяго, то куды далей рухацца? — цікаўлюся ў Андрэя Бянько.

— Нават самыя смелыя юнацкія мары здзейсніліся — гэта праўда. Я скончыў ВНУ, працую па спецыяльнасці, ёсць сям'я, і так рана прыйшло прызнанне: удастоены гонару быць занесеным на Дошку гонару Віцебскага раёна па выніках працы за мінулы год. Лічу гэта вялікім авансам, які мне давядзецца разам з калектывам адпрацоўваць яшчэ доўгія гады, — кажа ён.

Андрэй з дзіцячых гадоў знаёмы з нялёгкай працай хлебароба.

— Ужо з 12 гадоў я добра вадзіў машыну і нядрэнна разбіраўся ў сельскагаспадарчай тэхніцы. Бацька ўсяму навучыў, ён працаваў галоўным аграномам у ААТ «Літусава» Сенненскага раёна. Я хвосцікам хадзіў за бацькам, унікаў ва ўсё, ды і дома дапамагаў маці па гаспадарцы. Так што не баюся ніякай працы, — прызнаецца наш герой.

Са сваёй будучай жонкай упершыню сустрэўся ў вёсцы Літусава, куды Надзя прыязджала да бабулі на вакацыі. Сустрэчы пад месяцам, танцы ў вясковым клубе ў рэшце рэшт скончыліся прапановай рукі і сэрца. У маладой сям'і Бянько падрастае дачушка. Бацька перажывае аб адным — не хапае часу, каб у поўнай меры атрымаць асалоду ад ролі кіраўніка сямейства. Рана ідзе на працу і прыходзіць позна. Маша, якой амаль тры гады, сустракае тату радасным крыкам, працягвае ручкі, абдымае і доўга не адпускае. А тата ёй дастае з кішэні чарговую цацку — абавязкова машынку або трактар. Толькі з імі гуляе малая, зусім ігнаруючы лялькі. Вось што значыць татавы гены!

Цяжкімі і насычанымі для намесніка дырэктара аказаліся апошнія два гады. У гаспадарцы вяліся вялікае будаўніцтва і рэканструкцыя жывёлагадоўчых памяшканняў на ўчастках «Паўдзеткі», «Вымна», «Рудакова», дзе ўзведзены тры новыя і рэканструявана столькі ж старых памяшканняў. На большасці аб'ектаў працавала ўласная будаўнічая брыгада. Усім працэсам кіраваў Андрэй Бянько.

— Усе нашы старанні выліваюцца ў прамым сэнсе слова ў вялікае малако, дадатак якога — вынік нашых пераўтварэнняў у жывёлагадоўчай галіне. Павялічана на тысячу пагалоўе жывёлы. Штодзень адпраўляем на перапрацоўку больш за 60 тон малака, — дзеліцца Андрэй Аляксандравіч. — Па такім жа прынцыпе дзейнічаем і ў механізацыі. Аднаўляем уласнымі сіламі рухавікі любых тыпаў трактароў і аўтамабіляў, што значна эканоміць сродкі і час.

**“Віцебскія Весці”**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ЗАКРЫЛІ ЯШЧЭ АДНУ БІБЛІЯТЭКУ

**Гэта філіял Бешанковіцкай гарпасялковай бібліятэкі, які месціўся ў офісным будынку ПМК-41.**

Але аматары кнігі не павінны адчайвацца. Раённая "Зара " напісала:

"У сувязі з закрыццём філіяла "Бешанковіцкая гарпасялковая бібліятэка", размешчанага па адрасе: г.п. Бешанковічы, вул. Пушкіна, 1 (будынак ПМК-41), чытачоў гэтага мікрараёна будзе абслугоўваць бібліобус.

Скарыстацца паслугамі "бібліятэкі на колах" можна штомесяц, у другую і чацвёртую сераду, каля будынка КУСП "Бешанковіцкая ПМК-41" з 10 да 12 гадзін."

Аднак, не трэба быць вялікім правідцам, каб зразумець простую ісціну, што закрыццё бібліятэкі зробіць жыццё тутэйшых пенсіянераў больш нудным.

**А.Тутэйшы**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

# ХОЧУЦЬ ЯК НАЙЛЕПШ, А ЯК АТРЫМАЕЦЦА?

**У Беларусі з 1-га студзеня 2023 года стартавала дыспансерызацыя па-новаму. Патлумачыла намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Віцебскага аблвыканкама Людміла Кавалёва.**

—Адрозненне дыспансерызацыі ад простага наведвання доктара ў тым, што гэта комплекс мерапрыемстваў. Ён уключае прафілактычны медагляд, па выніках якога праводзіцца медыцынскае абследаванне пацыента, выяўляюцца хранічныя захворванні альбо фактары рызыкі іх развіцця. Пасля чаго чалавеку даюцца канкрэтныя рэкамендацыі па змене, напрыклад, ладу жыцця, харчовых звычак. Галоўная мэта дыспансерызацыі — выявіць фактары рызыкі захворванняў, якія часта прыводзяць да інваліднасці і заўчаснай смерці.

***— Пілотныя праекты, праведзеныя ў паліклініках, пра якія мы ўжо пісалі, паказалі, што такая навіна, як анкетаванне пры праходжанні дыспансерызацыі, часам выклікала ў людзей цяжкасці. Навошта гэта трэба?***

— Пытанні анкеты дазваляюць акцэнтаваць, якія віды даследаванняў і абследаванняў павінен прайсці дадзены пацыент, і ў далейшым доктар таксама будзе аглядаць яго ўжо з гэтым прыцэлам — што ў каго ёсць. Тыя, хто мае хранічныя захворванні, будуць праходзіць абследаванні, якія прапісаныя клінічнымі пратаколамі дыяг-ностыкі лячэння, зацверджанымі Міністэрствам аховы здароўя, па кожным з іх ёсць пэўны пералік абследаванняў, кратнасць назірання і агляды лекараў-спецыялістаў.

***— Якая перыядычнасць дыспансерызацыі?***

— Людзі да 40 гадоў могуць праходзіць яе альбо кожны год, альбо раз у два гады, альбо адзін раз у тры гады — у залежнасці ад таго, што ў чалавека выявілі. Тыя, хто старэйшыя за 40 гадоў, анкетаванне і дыспансерызацыю будуць праходзіць штогод. А ўжо па выніках кратнасць назірання і абследавання будуць вызначацца доктарам у кожным канкрэтным выпадку індывідуальна.

***— Далёка не ўсе бездакназна ставяцца да свайго здароўя. Многія трымаюць свой стан пад кантролем. Што павінна падштурхнуць людзей яшчэ раз прыйсці ў паліклініку?***

— Выкажам здагадку, у чалавека ёсць адно нейкае хранічнае захворванне, ён рэгулярна лечыцца, але не думае пра тое, што можа з'явіцца рызыка развіцця іншай хваробы. Напрыклад, у чалавека, які мае сардэчна-сасудзістыя парушэнні, з цягам узросту можа з'явіцца рызыка развіцця або таго ж цукровага дыябету, або анкалогіі.

3 тысячы пацыентаў больш за чатырыста рызыкуюць мець праблемы з сэрцам, больш за сотню — з лёгкімі, амаль столькі ж — з анкалогіяй.

На прыёме могуць насцярожыць лічбы на танометры пры вымярэнні артэрыяльнага ціску. Вымераўшы рост, вагу, акружнасць таліі, можна разлічыць індэкс масы цела, адхіленні ад нормы якога таксама нараджае рызыкі. Візуальны агляд поласці рота і скуры пацыента дазволіць не прапусціць злаякасныя пухліны вонкавай лакалізацыі, якія ў апошні час вельмі турбуюць анколагаў.

***— Такім чынам, з чаго пачынаць? Паліклінічнае звяно ўжо гатова да дыспансерызацыі?***

— У паліклініках завершана падрыхтоўчая праца. У кожнай з іх ёсць інфармацыя, куды трэба звярнуцца, калі вы вырашылі прайсці дыспансерызацыю. Улічваючы тое, што паліклінікі маюць розныя магчымасці, у кожнай распрацаваны пэўны алгарытм, каб пацыент з мінімальнымі выдаткамі часу змог прайсці максімальна большы аб'ём абследаванняў, якія яму пакладзены. Варта звяртаць увагу на інфармацыйныя стэнды, паказальнікі, ды і персанал заўсёды гатовы дапамагчы. Працуем таксама над тым, каб так званай мэтавай групе, гэта людзі, якія працуюць на прадпрыемствах і рэгулярна праходзяць медагляды, не трэба было кудысьці двойчы хадзіць. З імі мы паспрабуем загадзя правесці анкетаванне, каб пры абавязковым аглядзе аднамомантна ўносіліся дапаўненні, неабходныя пры дыспансерызацыі.

Асобны пласт працы — на вёсцы, бо ў нас ёсць пажылыя людзі, якія ў сілу ўзросту ўжо наогул нікуды не ходзяць і не звяртаюцца. З імі будуць працаваць нашыя фельчары, медсёстры, памагатыя лекара. Яны прыйдуць да кожнага, правядуць анкетаванне, вынікі далажаць доктару, які вызначыць — альбо патрабуецца выезд на дом, альбо запросяць у паліклініку, альбо прапануюць легчы ў стацыянар, каб правесці неабходныя абследаванні. У правядзенні дыспансерных аглядаў таксама будуць задзейнічаны і перасоўныя медыцынскія комплексы.

Формы працы амбулаторна-паліклінічнага звяна плануем разнастайныя. Прадугледжваем магчымасць вылучэння спецыяльных дзён дыспансернага агляду ў максімальна зручны час, у тым ліку і з падоўжаным графікам працы, і ў суботу. Пад гэта будуць падбудаваны графік аглядальнага кабінета і кабінета электракардыяграфіі, лабараторныя даследаванні, вымярэнне ўнутрывочнага ціску.

***— Ці рэкамендавана кіраўнікам арганізацый і прадпрыемстваў прадастаўляць працоўным вольны час у працоўны дзень для праходжання дыспансерызацыі?***

— На заканадаўчым узроўні пакуль гэтага няма. Але калі кіраўнік зацікаўлены і гатовы адпусціць, напрыклад на гадзіну раней, нейкую групу з працы, то мы таксама будзем падладжвацца і ствараць умовы для такіх дыспансерных гадзін, дзён і г. д. Па дамоўленасці з медустановай, можа прыйсці група служачых. Гэты працэс значна спрашчаецца, калі анкетаванне праведзена загадзя, доктар будзе ведаць, куды каго накіраваць, каб не ствараць чэргі.

Практыка першых дзён дыспансерызацыі пакажа, якія разумныя змены неабходна ўнесці ў гэты працэс. Кожны павінен засвоіць, што праходзіць дыспансерызацыю важна і трэба. Новы акцэнт на прафілактычны кірунак дапаможа зрабіць пацыента актыўным удзельнікам кантролю за сваім здароўем і павысіць адказнасць за яго стан.

**ВітВесці**

КРЫМІНАЛ

# ЗЛОДЗЕІ ЗАТРЫМАНЫЯ

**З канца кастрычніка да сярэдзіны снежня 2022 года на лецішчах у Бешанковіцкім і Віцебскім раёнах арудавалі серыйныя злодзеі. Яны ўзломвалі дамы і гаспадарчыя пабудовы, выносілі электраінструменты, прадукты харчавання. Выкрадзенае яны звазілі на кватэру аднаго з саўдзельнікаў, а пасля збывалі скупшчыку.**

Група, якая складалася з чатырох чалавек ва ўзросце ад 22 да 37 гадоў, да злачынстваў рыхтавалася старанна. Днём злодзеі аб'язджалі дачныя ўчасткі, да ўсяго прыглядаліся, а затым прыязджалі ўначы і выносілі ўсё, што знаходзілі каштоўнае.

Асобы злачынцаў устанавілі супрацоўнікі крымінальнага вышуку Віцебскай вобласці. Адзін з удзельнікаў банды аказаўся раней судзімым за крадзеж.

Серыйных злодзеяў затрымалі пры сілавой падтрымцы АМАПу. У адносінах да кожнага ўзбуджаны крымінальныя справы за крадзеж.

Агульная сума прычыненага грамадзянам урону склала больш як Br10 тыс.

Міліцыя ўстанаўлівае дачыненне ўдзельнікаў злачыннай групы да аналагічных выпадкаў у вобласці.

Праваахоўнікі нагадваюць жыхарам Віцебшчыны, што захаванасць маёмасці на лецішчах, дзе яны не пражываюць круглы год, залежыць і ад іх саміх.

Не рэкамендуецца пакідаць каштоўныя прадметы, у тым ліку з металу, навідавоку. На дзверы неабходна ўсталёўваць моцны замок або падлучаць сігналізацыю. На вокны можна паставіць краты, каб выкрадальнікі не пракраліся ў хату, выстаўляючы аконныя рамы. Таксама сачыць за хатай у вёсцы можна ў рэжыме анлайн, абсталяваўшы лецішча камерамі вонкавага назірання.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах БЕЛТА**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# СУДЗЯЦЬ TUT.BY

**9-га студзеня 2023 года ў Мінскім гарадскім судзе пачалося першае судовае паседжанне па крымінальнай справе ў адносінах працаўнікоў ТАА «Тут Бай Медыя» - у мінулым аднаго з найбуйнейшых незалежных СМІ Беларусі.**

На лаве падсудных знаходзяцца генеральны дырэктар партала Людміла Чэкіна і галоўны рэдактар Марына Золатава. Абвінавачанні таксама прад'яўленыя журналісткам Вользе Лойка, Алене Талкачовай і юрысконсульту прадпрыемства Кацярыне Ткачэнка, аднак яны ў судзе не прысутнічаюць, паколькі раней пакінулі Беларусь. У кастрычніку 2022 года КДБ Беларусі ўключыў Лойку і Талкачову ў спіс "асоб, якія маюць дачыненне да тэрарыстычнай дзейнасці".

Супрацоўнікам Tut.by у розных спалучэннях прад'яўлены абвінавачанні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, "распальванні сацыяльнай варожасці" і закліках да "прычынення шкоды нацыянальнай бяспецы Беларусі". Ім пагражаюць тэрміны ад 5 да 12 гадоў пазбаўлення волі. Суд праходзіць у закрытым рэжыме, таму пра падрабязнасці паседжання пакуль нічога не вядома.

Яшчэ 3-га снежня 2020 года Эканамічны суд Мінска пазбавіў партал Tut.by статуса СМІ. Пераслед журналістаў выдання пачаўся вясной 2021 года, калі ў рэдакцыю Tut.by у Мінску прыйшлі з ператрусам супрацоўнікі дэпартамента фінансавых расследаванняў (ДФР) камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі. Таксама сілавікі правялі ператрусы ў дамах некалькіх журналістаў, а таксама галоўнай рэдактары Tut.by Марыны Золатавай і яе намесніка Максіма Гайко. Золатаву пасля ператрусу правялі праз заднія дзверы дома і павезлі, канфіскаваўшы аргтэхніку. Тады ж сілавікі правялі ператрусы ў журналісткі сайта Алены Талкачовай і двух рэдактараў, Ганны Рудэнкі і Вольгі Саўкі. Усяго сілавікі затрымалі 15 супрацоўнікаў партала, 13 з якіх з часам выйшлі на волю (зараз за кратамі знаходзяцца толькі Чэкіна і Золатава).

Пасля ператрусаў дэпартамент фінансавых расследаванняў паведаміў аб узбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да "службовых асоб" юрыдычнай асобы " Tut.by Медыя". Іх абвінавацілі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў. Пазней міністэрства інфармацыі краіны аб'явіла аб блакіроўцы доступу да сайта. Як гаворыцца ў ягонай заяве, гэта было зроблена з-за публікацыі матэрыялаў з "інфармацыяй ад імя незарэгістраванага фонду BYSOL".

У снежні Следчы камітэт Беларусідапоўніўабвінавачанні ў адрас журналістаў Tut.by распальваннем варожасці.

Tut.by было адным з нямногіх незалежных СМІ ў Беларусі. Сайт актыўна асвятляў пратэсты супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі ўлетку 2020 года. Праваабарончыя арганізацыі лічаць Чэкіну і Золатаву палітычнымі зняволенымі.

**Бі-Бі-Сі**

БЕЛАРУСКАСЦЬ

# НОВАЯ «СПРАВА НАЦЫЯНАЛІСТАЎ»? ШТО ЗАКІДАЮЦЬ ПАЎЛУ БЕЛАВУСУ

**Следчы камітэт расказаў пра абвінавачванні, якія закідаюць стваральніку «Арт Сядзібы» і крамы symbal.by Паўлу Белавусу. Тое, як пра гэтыя абвінавачванні напісала БелТА, больш падобна на рыторыку сталінскіх часоў, піша Сяргей Пульша ў «Новым Часе». Нас ізноў чакае «справа нацыяналістаў»?**

Начальнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Сяргей Паско распавёў, што Белавус «на працягу дзесяці гадоў вёў актыўную дзейнасць, накіраваную на змену дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам». «У 2011 годзе абвінавачаны для пошуку аднадумцаў пачаў трансліраваць патрэбную яму інфармацыю ў масы. Пад выглядам культурна-гістарычнага развіцця ў розных агульнадаступных сацыяльных сетках і на сайтах ён распаўсюджваў ідэі беларускага нацыяналізму, мэтай якіх з'яўлялася змена дзяржаўнай улады ў Беларусі».

«Ідэі беларускага нацыяналізму» — гучыць даволі цікава, асабліва «пад выглядам культурна-гістарычнага развіцця». Падаецца, пад гэтым следчыя разумеюць дзейнасць «Арт-Сядзібы», якая сапраўды генерыравала багата ідэй нацыянальнага адраджэння.

**Як улада падхоплівала «нацыяналістычную дзейнасць»**

Пачыналася «Арт Сядзіба» з невялічкага моўна-дыскусійнага клуба, памяшканне якога было знята ў завода «Гарызонт». Першы ціск на арганізацыю пачаўся менавіта з пазбаўлення гэтага памяшкання. За 2012 год Мінгарвыканкам тройчы адмовіў у прадастаўленні памяшкання «Арт Сядзібе». Што нарабіла ініцыятыва? Проста давала пляцоўку для публічных лекцый, прагляду кінафільмаў, абмеркавання культурных падзей і прэзентацый. На іх у якасці гасцей запрашаліся аўтары і журналісты — менавіта гэта стала падставай для «занепакоенасці» ўлад.

Дарэчы, у тым жа годзе «Арт Сядзіба» атрымала прэмію Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі «Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці—2012» у намінацыі «Адмова года».

Аднак больш «Арт Сядзіба» была знакамітая сваімі незвычайнымі прабеларускімі акцыямі, якія (о, божухна!) потым альбо падхопліваліся ўладай, альбо нават праходзілі сумесна з уладамі.

Самая вядомая ініцыятыва — «Дзень вышыванкі». Першапачатковa ідэя нарадзілася ў «Арт Сядзібы» і паспяхова прайшла на базе кірмашу ў Палацы мастацтваў. Але з 2016 года яе перахапіў БРСМ. І праводзіў не адзін раз ды з вялікімі размахам — на пляцоўцы каля Палаца спорту. Дайшло да таго, што ў БРСМе нават выдумалі «Вышываныча» — персанажа Тэлеграм-стыкераў «з нацыянальным каларытам», распрацаванага напярэдадні «Дня вышыванкі» 2018 года.

І гэта не адзіная ідэя, якую праўладныя актывісты «скамуніздзілі» ў «Арт Сядзібы». У снежні 2014 года ініцыятыва пачала раздаваць стужкі з беларускім арнаментам мінакам — акцыя прасоўвалася ў сацсетках з хэштэгам #беларускаястужка. За раздачу стужак нават затрымлівалі Паўла Белавуса, Франака Вячорку і фотакарэспандэнта Уладзя Грыдзіна.

А ў чэрвені 2015-га, пад чарговыя выбары Лукашэнкі, праваправераемнікі камсамола прапанавалі сфатаграфавацца са стужкай з арнаментам або з чырвона-зялёнай стужкай і выкласці фота ў інтэрнэт пад хэштэгамі #вышыванка #выбары2015.

Звярніце ўвагу на год — наступны год пасля расійскага захопу Крыма і стварэння так званых «ЛНР» і «ДНР». Тады «георгіеўская стужка» ператваралася ў знак расійскай агрэсіі, і ўлады шалёна напружвалі мазгі, чым яе замяніць. БРСМ вырашыў «пазычыць» ініцыятыву «Арт Сядзібы», а стужка з яблыневай кветкай з'явілася пазней.

Апроч БРСМа, побач з Белавусам павінна сядзець і кіраўніцтва Федэрацыі футбола. Менавіта яно «спрыяла нацыяналістычнай дзейнасці», бо разам з «Арт Сядзібай» праводзілі конкурс «Мова — музыка — футбол». Больш за тое, ва ўмовах конкурсу выказвалася пажаданне, каб музыкі стваралі «песні па-беларуску з патрыятычным зместам, якія падымаюць дух, могуць гучаць на стадыёнах падчас футбольных матчаў»…

А арнамент на пакунках бабруйскага зефіру з азбукай арнаменту? А адпаведная прадукцыя ў «Камунаркі»? Усё гэта пайшло адтуль — з «нацыяналістычнай» цяпер «Арт Сядзібы».

Следчы камітэт наракае, што «Абвінавачаны (Павел Белавус — Рэд.) зарэгістраваўся ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка і заснаваў таварыства з абмежаванай адказнасцю (крама па анлайн і афлайн продажы тавараў), пасля чаго пачаў праводзіць розныя масавыя мерапрыемствы. Створаныя бізнес-праекты адкрылі прадпрымальніку новыя магчымасці. Паколькі Беларусь заўсёды знаходзілася ў цэнтры ўвагі на палітычнай арэне, хутка знайшліся тыя, хто быў гатовы спансіраваць развіццё яго антыдзяржаўнай дзейнасці. Фігурант падпісаў не менш за 12 дагавораў з рознымі замежнымі прадстаўнікамі і кампаніямі. З тых часоў экстрэмісцкая дзейнасць на тэрыторыі Беларусі набывала новыя абароты дзякуючы ўліванням з-за мяжы».

Зразумела, размова ідзе пра краму symbal.by — самы паспяховы нацыянальны праект. …«Антыдзяржаўную», па цяперашнім меркаванні СК, дзейнасць крамы падтрымлівалі дзяржаўныя прадпрыемствы. «Мы зрабілі бел-чырвона-белую стужку на дзяржаўнай фабрыцы, сцягі шыем таксама на фабрыцы, якая шые і чырвона-зялёныя. І шмат рэчаў мы стараемся рабіць унутры Беларусі, паказаць, што гэта рэальна, гэта магчыма», — зазначаў Белавус.

«Мы сваімі дзеяннямі хочам паказаць, што гэта не апазіцыйны, а нацыянальны сімвал, пад якім Беларусь атрымала незалежнасць, які ўсе павінны паважаць і ганарыцца ім. Калі мы запусцілі крамы і пачалі прадаваць сувеніры, да нас пачалі хадзіць дзяржаўныя СМІ, асабліва калі пачаўся бум з вышымайкамі. Прыходзіць БТ, у нас „Пагоня", сцягі. Пытаемся: „Вы будзеце ўсё гэта здымаць?" — „Ну, мы здымем тое, што нам трэба..." Пачалі нас запрашаць і на дзяржаўныя мерапрыемствы, гарадскую масленіцу, розныя фестывалі», — казаў Белавус у 2015 годзе.

Але не толькі дзяржпрадпрыемствы ды БТ з асобнымі арганізатарамі гарадскіх свят спрыялі той «антыдзяржаўнай дзейнасці». Увесь Мінгарвыканкам дазволіў самую маштабную нацыянальную падзею 2018 года — адзначэнне 100-годдзя ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

На свята ля Опернага тэатра прыйшло каля 50 тысяч чалавек. І за гэта Белавус зноў быў уганараваны прэміяй НДА «Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці».

Напэўна, менавіта гэта следчыя лічаць «стымуляцыяй варожасці суайчыннікаў у дачыненні да Радзімы»?...

**На якую дзяржаву працуюць следчыя?**

Пытанне толькі адно: калі вышэйпералічаная дзейнасць кваліфікуецца як «здрада дзяржаве» і называецца «антыдзяржаўнай», на якую тады дзяржаву працуюць следчыя? Ці сапраўды мову, культуру, беларускую сімволіку яны лічаць «нацыяналістычнай» і «антыдзяржаўнай»?

І яшчэ адна цытата ад Паўла Белавуса пра тое, для чаго ўся яго дзейнасць: «Для канчатковага фарміравання нацыі, як я прайваў, каб мы ўсё ж такі пачалі гаварыць „у нас у Беларусі", а не „как там у нас, у русских". Гэта трэба ўбіць людзям. Бо без гэтага не будзе сапраўднай дзяржавы, без гэтага ў нас у любы момант, калі прыйдуць тыя ж зялёныя чалавечкі, з'явіцца патэнцыйная пагроза, што ў нас будзе нешта такое, як з Украінай, з акупацыяй. Хоць мы нібы і хаўруснікі, і сябры, але ёсць гэтая пагроза. І важна хоць неяк паспрабаваць гэтую пагрозу паменшыць, у тым ліку і праз свядомасць».

Дык на якую дзяржаву працуюць следчыя?

*(скарочана)*

**budzma.me**

РАСІЯ

# ЧЕГО НЕ ПОНИМАЮТ РОССИЯНЕ, ДЕКЛАРИРУЮЩИЕ ЛОЗУНГИ ТИПА «МОЖЕМ ПОВТОРИТЬ»

**В 1945 году получилось же, почему же сейчас не получится? — пишет Дмитрий Чернышев.**




В сорок пятом получилось только потому, что Америка с ее 50% мирового ВВП была на стороне СССР.

Процитирую Солонина: «Танк Т-34-85. Двигатель отлит из американского алюминия. Броня отлита на американских легирующих вольфраме и молибдене. Погон башни сделан на американском карусельном станке. Своих не было. 85-мм пушка рассверлена на американском оборудовании. Командир общался с подчинёнными по американской рации. Пушка стреляла снарядами, в гильзах которого американский порох. Латунная гильза сделана из американской латуни. В самом снаряде была американская взрывчатка. Резиновый бандаж на катках сделан с добавлением американского каучука. А так танк наш. А рядом с нашим танком шел американский Шерман».

У могучего Советского Союза на пике его развития было около 20% от мирового ВВП. И то пупок развязался в экономической гонке. У путинской России около 2% мирового ВВП. И доля эта быстро сокращается. Ни на одну страну в мире не было наложено такого количества санкций.

В 1980 году номинальный ВВП СССР был около в $1,2 трлн, а ВВП Китая — в $226 млрд. В пять с лишним раз больше, чем у китайцев. В 2017 российский ВВП приблизился к $1,6 трлн, а ВВП Китая — около $12 трлн. В семь с половиной раз меньше.

В 1990 году доля РСФСР в мировой добыче нефти составляла 16,2%, а газа — 29,8%, а по итогам 2015 года эти показатели снизились до 12,4 и 12,3%. Россия все проспала в экономической гонке.

Экономика России давно не представляет из себя ничего серьезного. Процитирую Иноземцева: По высокотехнологичному экспорту ($9,84 млрд в 2014 году) мы более чем втрое отстаем от в прошлом нищего Вьетнама ($30,86 млрд), от Сингапура — почти в 14 раз ($137,4 млрд), а от Китая ($558,6 млрд) — в 57 раз. В 2016 году Россия впервые экспортировала нефти и газа меньше (на $107,9 млрд), чем Китай — одних лишь мобильных телефонов (на $116,1 млрд).

Совокупные прямые инвестиции российских компаний за рубеж составляли в 2013 году $439 млрд — около 16% от китайских и менее 3,5% от европейских.

Слабая экономика = слабая армия. Тихоокеанский флот существенно уступает военно-морским силам одной Южной Кореи. Даже довоенный Черноморский флот был гораздо слабее турецкого флота. На всю Россию произведено всего несколько истребителей пятого поколения (включая прототипы). У американцев F-22 под двести штук. И F-35 — под две тысячи.

Производство танков Армата провалено. Производство ракет Сармат и Циркон провалено. Импортозамещение провалено. Практически ничего из заявленных разновидностей чудо-оружия не существует в действительности. 80% всех денег, выделенных на российский ВПК, разворовано.

Производительность труда в России находится на уровне стран третьего мира. Если в американской компании Lockheed Martin в год на одного сотрудника приходилось $407 тысяч выручки, то в российской ОАК этот показатель составлял 404 тысячи, но рублей.

Современная война — это война разведок. Запад знает о планах России все. Отслеживается каждый танк, каждый бензовоз и каждая группа военных. Это как играть в покер с открытыми картами против соперника, чьих карт вы не видите — безнадежно. Военная промышленность США и Европы быстро набирает обороты. Война превратится в избиение.

За Украину сегодня весь мир, за путинскую Россию — только Иран, Беларусь и Северная Корея.

Ничего россияне не смогут повторить. И это прекрасно. Победа путинской России стала бы катастрофой для всего мира.

**gazetaby.info**

АНАЛІТЫКА

# ИТОГИ САМОГО ДРАМАТИЧЕСКОГО ГОДА В ИСТОРИИ НЕЗАВИСИМОЙ БЕЛАРУСИ

**Политолог Валерий Карбалевич — о том, каким 2022 год оказался для нашей страны: «Перед угрозой войны меркнет неприятие диктатуры».**

— Неожиданно прилетел «черный лебедь» в виде войны России против Украины, — пишет Карбалевич в Свободных новостях. — Это и стало основным фактором, повлиявшим не только на Беларусь, но и на всю международную политику. Но прежде всего, война уже оказала сильное воздействие на наш регион, на соседей.

Чем бы она ни закончилась, станет сильным катализатором деградации России. Развитие страны заблокировано на институциональном уровне. Путин, развязывая войну, хотел изменить правила функционирования системы международных отношений.

Они действительно меняются. Но не в пользу России. Время работает против Российской Федерации. Каждый день продолжения войны — это новый шаг к разрушению его прежнего статуса.

Война запустила процесс интеграции Украины в ЕС. Без войны такого шанса у Украины не было бы.

**События этого года показали, что распад СССР не закончился, он продолжается.**

О чем свидетельствует не только война в Украине, но и война между Азербайджаном и Арменией, между Таджикистаном и Кыргызстаном. Итогом войны в Украине станет дезинтеграция постсоветского пространства.

Как война в Украине повлияла на Беларусь?

Только в этом году стало понятно, что неразрешенность внутрибелорусского конфликта стало фактором, стимулирующим войну в регионе, обернулась втягиванием страны в глобальный геополитический конфликт.

Война создала вторую линию изоляции для режима Лукашенко. Первая появилась после 2020 года, когда Запад не признал Лукашенко президентом. А война превратила Беларусь, вместе с Россией, в международных изгоев.

Второй вызов, также явившийся следствием войны, — сужение суверенитета Беларуси, возрастание влияния России на нашу страну.

Война углубила раскол белорусского общества, но провела несколько другие линии раздела. Оказалось, что какая-то часть отрицательно относится к Лукашенко, но любит Путина. Война дополнила ценностный раскол геополитическим. Причем, исчезает середина, уменьшается количество неопределившихся, скукоживается доля сторонников нейтралитета Беларуси.

Логично, что тема безопасности вышла на первое место в массовом сознании, вытеснив другие вопросы, вокруг которых два года пылали страсти. Перед угрозой войны меркнет неприятие диктатуры.

**И тут мы наблюдаем определенный парадокс массового сознания: Лукашенко, втянувший Беларусь в войну, удалось выступить для большинства белорусов гарантом мира.**

Также выяснилось, что режим абсолютно не интересует бизнес-климат в стране. Хотя, казалось бы, властям нужны деньги в бюджете. Но власти совершенно не волнует, какой образ Беларуси создается на экономической карте мира. Правительство отказалось возвращать долги в валюте, создавая ситуацию дефолта. Лукашенко запретил иностранным собственникам выводить капитал за границу.

Важнейшим итогом года стала быстрая трансформация авторитарного режима в тоталитарный. Беларусь по многим показателям вернулась в СССР сталинских времен (беспредел карательных органов, огромные сроки заключения по «политическим» статьям). Из книжных магазинов стали изымать «неправильные» книги. Страна в шаге от костров из книг.

Именно по итогам этого года становится понятным, что Лукашенко никуда уходить не собирается. В пользу этого свидетельствует и беспощадный террор против своих оппонентов, усиленный к концу года, и культ личности вождя, который активно пропагандируется государственными СМИ.

Спираль белорусской драмы закручивается максимально жестко

**«Филин»**
**gazetaby.info**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# СССР БЫЎ НАЗАЎЖДЫ, ПАКУЛЬ НЕ СКОНЧЫЎСЯ. ПАДСТАВА ДЛЯ ПЕРАДНАВАГОДНЯГА АПТЫМІЗМУ

**Бессэнсоўна шукаць прычыны дэградацыі ў інтрыгах імперыялістаў. Дэградацыя ішла ад жыцця, у якім дзяржава рабіла выгляд, што плаціць, а «правільны грамадзянін» у адказ рабіў выгляд, што працуе. Увесь гэты цырк з коньмі на працягу дзесяцігоддзяў суправаджаўся абменам правільнымі словамі.**

Тэма асобы палітыка як выдуманай сутнасці была закранута ў папярэднім артыкуле. Прашу прабачэння за самацытаванне, але без яго не абысціся: «...у кожнага медаля ёсць адваротны бок. Тыя, хто стварае выдуманую сутнасць палітыка, міжвольна ствараюць і выдуманую сутнасць народа. У выніку тое, што наверсе прымаюць за народ, аказваецца тульпай — гэта значыць, паранармальным аб'ектам, створаным сілай думкі».

Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца, асабліва калі прыгадаць, што першая палова XX стагоддзя — гэта час панавання таталітарных ідэалогій: фашысцкай, нацысцкай і камуністычнай. Помнікі аднаму з заснавальнікаў апошняй усё яшчэ ўпрыгожваюць цэнтральныя плошчы беларускіх гарадоў.

У паэта Барыса Пастарнака ў паэме «Высокая хвароба» на тэму народа як выдуманай сутнасці ёсць геніяльныя радкі:

«Столетий завистью завистлив,
Ревнив их ревностью одной,
Он управлял теченьем мыслей
И только потому страной».

Ён — «правадыр сусветнага пралетарыяту» Уладзімір Ленін. Яму і дадзім слова: «Кожны агітатар павінен быць дзяржаўным кіраўніком, кіраўніком усіх сялян і рабочых у справе эканамічнага будаўніцтва» (03.11.1920).

Нескладана заўважыць, што назоўнікі «агітатар» і «кіраўнік» для «самага чалавечнага чалавека» з'яўляюцца сінонімамі. Таму цэнтральнай задачай усіх таталітарных рэжымаў робіцца задача па фарміраванні «правільных грамадзян», здольных крочыць у адзіным страі, у кірунку, які пакажаў і вызначыў правадыр.

**Задачка з зорачкай**

«Правільнаму грамадзяніну» на заклік партыі і ўрада «Будзь гатовы!» належала ўскідваць руку ў салюце і рапартаваць «Заўсёды гатовы!». І каб такі рытуал давесці да аўтаматызму, гэтаму навучалі з дзяцінства. Але не дапамагло. У адрозненне ад сваіх бацькоў, мае аднагодкі (народжаныя ў 1960-я гады), на заклік «Будзь гатовы!» у думках дадавалі «Ганяць катоў».

Гэта, на першы погляд, нявіннае думказлачынства сведчыла пра дэградацыю эксперыменту па фарміраванні «правільнага грамадзяніна».

Бессэнсоўна шукаць прычыны дэградацыі ў інтрыгах імперыялістаў. Дэградацыя ішла ад жыцця, у якім дзяржава рабіла выгляд, што плаціць, а «правільны грамадзянін» у адказ рабіў выгляд, што працуе. Увесь гэты цырк з коньмі на працягу дзесяцігоддзяў суправаджаўся абменам правільнымі словамі.

Вось як яго апісвае навуковы кіраўнік «Левада-Цэнтра» Леў Гудкоў: «Уладам не давяраюць, але пры гэтым дэманструюць ім знешнюю лаяльнасць. На іх спадзяюцца, але адначасова надзяляюць іх самымі агіднымі якасцямі. Двудумства (выдзелена. — С. Н.) — адзін з найбольш дзейсных механізмаў адаптацыі да рэпрэсіўнай дзяржавы, да ўлады, непадкантрольнай людзям».

Чым скончыўся савецкі варыянт двудумства — добра вядома. Пра яго ўклад у «геапалітычную катастрофу XX стагоддзя» прафесар антрапалогіі ў Каліфарнійскім універсітэце ў Берклі Аляксей Юрчак напісаў кнігу «Гэта было назасёды, пакуль не скончылася». Яе нескладана адшукаць у інтэрнэце — пачытайце, рэкамендую.

Кіраваць плынню думак, не фільтруючы пры гэтым базар — задачка з зорачкай. Адна справа — фарміраванне «правільнага чалавека» ў прамысловым маштабе, і зусім іншая — адзінкавая вытворчасць «інжынераў чалавечых душ». Урэшце ўсё ўпіраецца ў рэсурсы. Не толькі элітнай нерухомасцю на Блакітным березе і возеры Кома, але і цёплымі прыбіральнямі ў дамах усіх не забяспечыць. Ніякай прыроднай рэнты для гэтага не хопіць, колькі нафты не пампуй.

Таму ў двудумства дзве складовыя часткі. Для «правільнага чалавека» двудумства — механізм адаптацыі да рэпрэсіўнай дзяржавы, для «інжынераў чалавечых душ» — механізм кіравання рухам думак.

Свежы прыклад. Следчы камітэт Расіі не знайшоў складу злачынства ў публічных заклiках журналіста Антона Красоўскага тапіць і паліць украінскіх дзяцей. У той жа час за аналагічны заклік адносна дзяцей расійскіх сілавікоў блогер Уладзіслаў Сініца атрымаў у 2019 годзе пяць гадоў калоніі.

**Пра ролю інклюзіі ў росквіце**

Нават у вырабаў са сталі, калі яны пастаянна зведваюць нагрузкі, надыходзіць стомленасць, яны псуюцца — ламацца можа нават жалеза. Чаго ж тады чакаць ад прадстаўнікоў роду чалавечага? З дапамогай польска-амерыканскага палітолага Адама Пшэворскага прыгадаем час Перабудовы: «Людзі мелі вострую патрэбу ў нейкай ідэйнай гармоніі: калі іх думкі і словы пастаянна не адпавядалі адно аднаму, то жыццё станавілася невыносным. Таму патрабаванне «праўды» стала, прынамсі, такім жа важным, як і патрабаванне хлеба...».

Аўтарства слогана «Хлеба і відовішчаў!» належыць рымскаму паэту Ювеналу (1–2 стагоддзе нашай эры). З тых часоў попыт ні на хлеб, ні на відовішчы не знізіўся. Аднак жыццё не стаіць на месцы, і па меры хай і павольнага, але няўхільнага задавальнення базавых патрэб, фарміруюцца новыя. Міжнародная статыстыка сведчыць, што ўсё часцей на масавых акцыях пратэсту гучаць не эканамічныя, а палітычныя патрабаванні.

Як тут не згадаць лозунг «Не падаткаабкладанню без прадстаўніцтва», які ўзнік падчас амерыканскай рэвалюцыі (1775–1783 гады) і выказваў адну з асноўных прэтэнзій амерыканскіх каланістаў да Вялікабрытаніі.

Сучаснае лідарства Амерыкі не са столі ўзялося. Яно — прамое следства больш чым 200-гадовага вопыту будаўніцтва інклюзіўных (лац. inclusivus — «уключаны») палітычных інстытутаў.

Ролі інклюзіўных інстытутаў у эканамічным росце прысвечаны адзін з галоўных палітэканамічных бестселераў XXI стагоддзя — кніга эканамістаў Дарона Аджэмоглу і Джэймса Робінсана «Чаму адны краіны багатыя, а іншыя бедныя». У чытачоў «НЧ», у сувязі з набліжэннем Новага года, ёсць магчымасць зрабіць сабе падарунак — знайсці кнігу ў сеціве.

Аўтар жа гэтага артыкула абмяжуецца адной цытатай з прадмовы да бестселера: «Жыхары Егіпта, гэтак жа, як і Туніса (гаворка ідзе пра «Арабскую вясну». — С. Н.), былі ўпэўненыя, што іх эканамічныя цяжкасці тлумачацца перш за ўсё адсутнасцю ў іх палітычных правоў. Калі дэманстранты пачалі вылучаць больш канкрэтныя патрабаванні, то першыя дванаццаць пунктаў аказаліся выключна палітычнымі».

***

Уякасці навагодніх пажаданняў нароўні з традыцыйнымі — здароўя, шчасця і любові — аўтар зычыць суайчыннікам разумення ролі палітычных правоў у культурным і эканамічным росквіце.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stankevich62@gmail.com тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.01.2023 у 16.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.